


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 8 (53) СНЕЖАНЬ 2006 г.

# З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ 2007 ГОДАМ !

**У нумары:**





Беражы ты мяне, Маці Божая,
Ад спакусаў у грэшным жыцці.
Пад апекай Тваёй толькі зможам мы
Шлях прамы да збаўлення знайсці.

Нам збаўленне – святло Пана Езуса –
Яркі промень у цемры начы.
Накіруй ты мой зрок, Найсвяцейшая,
Як знайсці мне Святло, навучы.

Расчыні маё сэрца замкнёнае,
Іскру Божую ў ім запалі.
Паяднай Ты мяне, Маці родная,
З Тваім Сынам на грэшнай зямлі.

Тэрэза Крумплеўская

**Абраз Маці Божай Браслаўскай Валадаркі Азёраў – новы твор мастачкі з в.Дварышча Аліны Трукан. Праца выстаўлена на выставе “Калядныя узоры”, якая была ўрачыста адкрыта ў Музеі традыцыйнай культуры 29 снежня. Пра выставу чытайце на другой старонцы. Там жа – пра новы зборнік паэзіі Тэрэзы Крумплеўскай “На прыпынку “Зямля”, які быў прадстаўлены на адкрыцці выставы. Дарэчы, абраз Маці Божай Браслаўскай А.Трукан напісала для Тэрэзы Крумплеўскай.**

# КАЛЯДНЫЯ УЗОРЫ

Выстава пад такой назвай арганізуецца дванаццаты раз. Звычайна щрачыста светла праходзиць яе адкрыццё, якое прыцягвае даволі многа ўдзельнікаў. Таму палітру святочных мерапрыемстваў Браслава ўжо цяжка ўявіць сабе без "Калядных узораў". Цікавай і разнастайнай была праграма імпрэзы ў гэтым годзе. Гучалі песні ў выкананні дзявочага калектыву Браслаўскай каталіцкай парафіі пад кіраўніцтвам Іны Сапун. Адзін з твораў – "Песня да Маці Божай Браслаўскай" напісаны на верш паэткі з Опсы Тэрэзы Крумплеўскай. Яна прачытала перад прысутнымі шэраг вершаў з новага зборніка "На прыпынку "Зямля", які толькі што пабачыў свет. Упрыгажэннем імпрэзы было выступленне з агнявым шоў Насты Зінкевіч. Госці мелі магчымасць падрабязна пазнаёміцца з экспанатамі выставы, паразмаўляць з аўтармі твораў. Гэтым разам удзел у выставе бяруць 32 аўтары,якія працуюць у такіх кірунках як – саломапляценне, разьбярства, ганчарства, аплікацыя з тканіны, вышыванне, акварэль, алейны жывапіс, ткацтва і інш.



**Макет Слабодкаўскага касцёла. Новая праца Міхаіла Чэркаса, вядомага майстра саломапляцення**

# Тэрэза Крумплеўская. "На прыпынку "Зямля"

*Зборнік надрукаваны ў Мінску. Прадмову да яго напісаў паэт Алег Салтук. Вершы скампанаваны ў два раздзелы: "Мелодыя кахання" і "У дарогу толькі з Богам". Напісаны яны на беларускай і рускай мовах. Увазе чытача прапануем некалькі твораў з новага зборніка.*




* * *

Там, дзе коні п'юць срэбра ў лугах,
Дзе світанак над долам іскрыцца.
Майго лёсу пралёг Млечны Шлях,
Я на зорнай імчу калясніцы.

Мне насустрач - аблокі вякоў ...
Ды напрамак рысак мой трымае.
І кладзецца на шлях той з-пад кол
Каляіна мая залатая.

* * *

Да сустрэчы, мой край, да сустрэчы!
Адлятаю я ў вырай, не ўрай.
Гасне свечкай кароткі мой вечар
Ты ж любові святлом дагарай.

Я к табе на світанку вярнуся -
Прарасту, нібы зерне ў зямлі.
У зеляніну лугоў апрануся,
Васільком расцвіту на раллі.

У звоне птушак, у шуме дубровы
Прагучыць мая песня не раз.
І на небе дугой каляровай
У грымотны з'яўлюся я час.

Днём і ноччу я буду з табою,
Сіл няма нас навек разлучыць.
Любы край, мы адзіны душою

## *Валадарка азёраў*
(песня)

Мы дзеці Твае,
Найсвяцейшая Панна Марыя,
Наш Браслаўскі карй
Сваім матчыным вокам акінь.
Мы просім Цябе
Да збаўлення дарогу адкрый нам,
Вядзі ў вечны рай,
У пакутах зямных не пакінь.

Валадарка азёраў
Асвяці ўсе нашы крыніцы,
Каб былі яны
Вытокам жывой чысціні.
Над сінім пратсорам
Найсвяцейшы Твой вобраз
іскрыцца
І боскім святлом
Нас ад чорнай бяды барані.

Мы грэшныя ўсе
Заслужылі на гнеў Тваййго Сына
І што нам рабіць –
На каленях стаім прад Табой.
Ахвяру нясём
І да Маці ўзываем адзінай –
Меч Боскі адкінь,
Падары нам душэўны спакой.

Кастусь Шыдлоўскі

*З гісторыі перыядычных выданняў і друку*

# "Хадзем наперад !". Выданне Браслаўскай гімназіі. 1938 г.

У даваенным Браславе не мелася свайго рэгіянальнага перыядычнага выдання. Гэта быў відавочны пралік з боку польскіх улад, якія імкнуліся прыспешыць і актывізаваць працэсы паланізацыі па розных напрамках, выхавання насельніцтва ў польскім патрыятычным духу. Для рэгёна з насельніцтвам звыш 140 тысяч чалавек газета магла б зрабіць у гэтым напрамку вельмі многа. Савецкая ўлада гэта цудоўна разумела і таму на далучаных у 1939 годзе землях вельмі хутка паўставаў рэгіянальны друк. У Браславе раённая газета "Звязда" пачала выходзіць ужо праз некалькі месяцаў пасля прыходу бальшавікоў


Brasław
Nr
IDŹMY NAPRZÓD!
Kwartalnik społeczno-literacki młodzieży szkolnej
Czuwaj strażnica
Prywatne Koedukacyjne Gimnazjum

Пытанне аб арганізацыі перыядычнага выдання не аднойчы ўздымалася грамадскасцю і на ўзроўні ўлад у 1930-я гады, але далей абмеркаванняў справа не пайшла. Зрэдку ўзнікалі грамадскія ініцыятывы. Згадаем, у прыватнасці, выданне машынапіснай сатырычнай газеткі "Дух Браслаўца". На грамадскіх пачатках паўстаў і гімназічны квартальнік "Хадзем наперад!", толькі гэты праект аказаўся больш важкім.

Пра Браслаўскую гімназію мы яшчэ не пісалі, гэта асобная тэма для публікацый, якая рыхтуецца. Адзначым толькі, што гімназія пачала працу ўвосень 1935 г., апошнім навучальным годам быў 1938/1939 г.

Першы нумар выдання стаў адзіным. Набраны і надрукаваны ён у друкарні "Магата". Меў 60 старонак з тэкстамі і некалькімі фотаздымкамі. Арыгінал квартальніка (ці яго частка) меўся ў распараджэнні школьнага музея пад кіраўніцтвам А.Гарэліка. Ад яго засталіся толькі асобныя маленькія фрагменты. Поўную ксеракопію выдання перадалі ў Браслаў нашы землякі з Варшавы.


**Будынак друкарні «Магата», дзе пабачыў свет гімназічны часопіс**

Пагартаем старонкі школьнага часопіса, азнаёмімся з яго матэрыяламі. На вокладцы пазначана, што "Хадзем наперад!" – грамадска-літаратурны квартальнік школьнай моладзі. Рэдактарская група складалася з рэдактара – Станіслава Місюна, адміністратара – Чэслава Шванскага, сакратара – Міхала Мілінкевіча (з *М.Мілінкевічам давялося пазнаёміцца ў Варшаве, ён адзін з актыўных дзеячаў зямляцтва браслаўцаў у сталіцы Польшчы, аўтар кнігі "Сілуэты браслаўцаў, вядомых дзеячаў малой і вялікай Бацькаўшчыны" (Варшава, 1988 г. – **К.Ш.**)*. Апекуном выдання быў настаўнік польскай мовы Юзаф Буйноўскі, нара-джэнец Браслаўшчыны, пазней – вядомы паэт, крытык, эсэіст.

Адзін з матэрыялаў расказвае, як паўставаў квартальнік. 2 снежня 1936 г.на паседжанні гуртка польскай мовы і літаратуры, на якім прысутнічаў Ю.Буйноўскі, было вырашана выдаваць школьную газетку "Хадзем наперад!" («Idźmy naprzód!»). Рэдактарам абралі С.Місюна, яго намеснікам – Ч.Шванскага. Першы нумар пабачыў свет 20 студзеня 1937 г., ён складваўся з 20-ці старонак машынапіснага тэксту. Матэрыялы, у асноўным, асвятлялі ўнутранае жыццё гімназіі, былі таксама змешчаны літаратурныя творы, гумарэскі. Газета стала выходзіць з перыядычнасцю 2 разы на тыдзень. Ішла пастаянная праца над удасканаленнем зместу, знешняга выгляду. На паперу атрымлівалі грошы ад гімназічнага самакіравання, астатняе рабілі на добраахвотных пачатках. У новым навучальным годзе адбылася частковая рэарганізацыя выдання. Побач са старой назвай з'явілася дадатковая: "Голас маладых". У рэдакцыю быў уведзены сакратар – М.Мілінкевіч. Дадаліся новыя раздзелы: "Спорт", "Харцарскі рух", "Вольная трыбуна", "Хроніка", "Крытыка", "Сатыра". Ва ўсіх матэрыялах перавага аддавалася асвятленню грамадска-арганізацыйных спраў гімназіі.

Досвед, назапашаны пры падрыхтоўцы газеты, дазволіў рэалізаваць больш грунтоўны праект – друкаваны часопіс. Як бачым, рэдакцыйная група засталася без змен.

Напачатку нумара змешчаны зварот да чытача рэдактара С.Місюна. Ён звярнуў увагу, што працэс развіцця свету несупынны, важным яе элементам з'яўляецца развіццё культуры. Задача маладых – далучыцца да культурніцкага руху "тварыць разам з іншымі вечны зніч культуры і асветы". Дэвіз "Хадзем наперад!" заклікае моладзь актыўна працаваць дзеля гэтага.

С.Місюн з'яўляўся таксама аўтарам агляду "Наш павет", зроблены на падставе матэрыялаў павятовых улад за 1934 год. У аглядзе знаходзім шмат цікавых звестак. Насельніцтва павета налічвала 143161 чалавек, у тым ліку 90 % вясковага, 10 % - гарадскога. Шчыльнасць насельніцтва складала 32, 6 чалавека на 1 кв.км. Сялянства ў асноўным было бедным. За год на працу ў Латвію выязджала 4, 5 тыс. чалавек, якія прывезлі каля 1 млн. злотых заробку. 30 % тэрыторыі было пад няўдобіцамі (багна, вада і г.д.). Лясы займалі толькі 14 % і былі страшна спустошанымі высечкамі ў гады першай сусветнай вайны. Працавала каля 40 прадпрыемстваў: фабрыка кардону ў Плятарове, 2 тартакі, 6 электраўстановак, 1 механічная цагельня, 7 ручных цагелень, 4 паравых, 6 маторных, 17 водных млыноў, 3 кааператыўныя малочні, апрацовачны цэх сукна ў Опсе. Агульная працягласць дарог складала 2517 км, з іх 2024 - гэта мясцовыя гмінныя дарогі. Даўжыня дзяржаўных дарог была 124 км, ваяводскага значэння - 212 км. З усіх дарог толькі 108,6 км мела брукаванае пакрыццё. У аглядзе згадана, што мясцовы шпіталь атрымаў апарат Рэнтгена, што дапамогай у харчаванні карыстаецца каля 4 тыс. бедных дзяцей, а вясной - каля 6 тысяч.



**Фотаздымак з часопіса. З правага боку - асноўны будынак гімназіі (цяперашні ЦДТ), з левага - будынак гімназічнай майстэрні**

Матэрыял Юзафа Караля падрабязна апавядае пра арганізацыю Браслаўскай гімназіі. Урачыстае яе адкрыццё адбылося 10 верасня 1935 г. Заняткі напачатку праводзіліся ў прыстасаваных памяшканнях. У 1936 г. гімназія пераехала ў спецыяльна ўзведзены будынак (цяперашні будынак Цэнтра дзіцячай творчасці).



**Фотаздымак з часопіса. Выстава кніг і музейных экспанатаў у гімназічнай залі**

М.Бартрашэвіч і М.Мілінкевіч пішуць пра даробак грамадскай працы ў гімназіі. З пачатку працы гімназія мела вучнёўскае самакіраванне, якое дзейнічала паводле распрацаванага Статута. Статут зафіксаваў, што самакіраванне - вышэйшы орган гімназіі. Агульным сходам вучняў і выкладчыкаў абіралася галоўнае праўленне, у класах дзейнічалі гмінныя самакіраванні на чале з войтамі. Самакіраванне мела свой бюджэт. Напрыклад, у 1935/1936 навучальным годзе - 129 злотых. У цеснай каардынацыі з самакіраваннем дзейнічалі разнастайныя гурткі і філіі грамадскіх арганізацый: літаратурны, гістарычны, спартыўны, музычны, харцарскі. Цэнтрам грамадскага жыцця быў гімназічны клуб. У гімназіі ладзіліся розныя вечарыны, тэатральныя пастаноўкі. Значнай падзеяй 1937 года было правядзенне выставы кніг. Праводзілася яна ў сувязі з тым, што гімназія атрымала значную бібліятэку ў падарунак. Кнігі былі выстаўлены на агляд, а да гэтага далучылі свае зборы гурткі польскай мовы і літаратуры, гістарычны. Дарэчы, адной з задач гістарычнага гуртка было назапашванне экспанатаў для будучага музея. Грамадскае жыццё гімназіі было насычаным і разнастайным.

Матэрыял Чэслава Шванскага «Браслаў у сонцы» можна вызначыць як фельетон. Аднаго разу аўтар пачуў па радыё перадачу з Варшавы, прысвечаную Браславу. Слухачам расказвалі пра горад-цуд, вельмі прыгожы па архітэктуры, з багатым грамадскім і духоўным жыццём. Ч.Шванскі запрашае ў вандроўку па вуліцах мястэчка. На ходніках і вуліцах трэба заважаць, каб не быць збітым якім мінаючым чалавекам ці фурманкай. А што рабіць, калі на ходніках сустрэнеш карову ці вялізную свінню? Да таго ж гэтыя жывёлы не ходзяць без "слядоў", абазначаных ляпехамі ці кучкамі. Трэба зважаць, каб не зачапіцца вопраткай за калючы дрот, якім аздоблены некаторыя сялібы. Не схаваць ад вока шмат убогіх хібар, дрэўцы, аб'едзеныя козамі, недабрукаваныя вуліцы. Гэтыя і іншыя рэчы - рэчаіснасць Браслава, але аўтар верыць у светлую будучыню гарадка са слаўнымі гістарычнымі традыцыямі.

Замалёўка М.Мілінкевіча "Браслаў летняй парой" паказвае, як санлівае ціхае мястэчка, падобнае на дзесяткі такіх жа правінцыяльных паселішчаў, летам пачынае жыць іншым жыццём. Тлумы турыстаў з усяе Польшчы, нават Румыніі і Амерыкі, вялізная колькасць моладзевых летнікаў, выступленні спартсменаў, рэгаты на возеры Дрывяты, вогнішчы з канцэртамі, пляжы, запоўненыя адпачываючымі, - рысы летняга Браслава. Але вось надыходзіць восень - і зноў мястэчка ахоплівае сон.

Развагі Юзафа Савіча тычацца вясковага жыцця і адносін да яго моладзі. Вёскі Браслаўшчыны ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі больш адсталыя ў эканамічным і культурным сэнсе. Прычыну аўтар бачыць і ў тым, што ранейшая царская ўлада была зацікаўлена ў цёмным і забітым сялянстве. Аднак вінаваты і дзеці сялян - сыны вёскі. Як толькі была магчымасць, яны пакідалі свае родныя мясціны без шкадавання. Калі каму ўдавалася вывучыцца, то назад вярталіся адзінкі. Трэба змяняць гэтую сітуацыю. Вучнёўская моладзь павінна аддаць доўг вёсцы, спрыяць яе культурнаму развіццю. Для гэтага трэба пераадолець у сабе пачуццё пагарды, пыхі, ляноты.

У квартальніку вылучаецца асобны раздзел "Народ у вераваннях і песнях", падрыхтаваны сябрамі секцыі этнаграфіі гуртка польскай мовы і літаратуры. Тут мы ўпершыню

сустракаемся з беларускімі матэрыяламі. Немагчыма было прыхаваць той факт, што матэрыял, назапашаны падчас экспедыцый па вёсках, у асноўным беларускі.

Юзаф Кароль падрыхтаваў да публікацыі дзве легенды з наваколля возера Снуды. Легенды вельмі цікавыя. Шкада толькі, што змешчаны не арыгінальныя тэксты на беларускай мове, а іх аўтарскі польскі пераклад. Легенды з-над возера Снуды прапануюцца чытачу крыху далей у гэтым нумары "Павета".

Лёнгін Нядзведзь дае апісанне жніўнага абраду і абраду "дзяды", розныя варожбы і прымхі. Тут таксама пануе беларуская стыхія. Змешчаны тэксты трох валачобных песень "Хрыстос гаспадарскі", "Хрыстос для гаспадынь", "Хрыстос польскі". Першыя дзве песні - беларускія, надрукаваныя лацінкай.

Матэрыялам Ч.Шванскага "Гісторыя нашай газеткі" мы ўжо карысталіся, але ён утрымлівае значна больш цікавых звестак.

Андрэй Мантвіл у матэрыяле "Спорт і культура цела" разважае наконт ролі спорту ў сучасным грамадстве.

"Бывайце, калегі!" - з такімі словамі звярнуліся да вучняў гімназіі яе выпускнікі. Публікацыя прасякнута шкадаваннем, што так мала ўдалося зрабіць у грамадскай працы.

У квартальніку змешчана некалькі літаратурных твораў: верш Ганкі Ляховіч "У маі" і навэла Станіслава Місюна "Янка Музыка з Браслаўшчыны". Навэла распавядае пра лёс таленавітага вясковага хлапчука Болька, які пісаў вершы. Цяжкае бядняцкае жыццё вымушае яго аддаваць перавагу фізічнай працы.

Стваральнікі гімназічнага часопіса сціпла адзначылі, што працуючы над яго выпускам, яны хацелі стварыць не дасканалы ўзор выдання, а падаць прыклад таго, што такое выданне магчыма здзейсніць вучнёўскімі сіламі, бо жаданне - гэта сіла.

Гэтага рэдакцыйны калектыў дасягнуў.

# Легенды з наваколля возера Снуды

Даўно, вельмі даўно, у Гарадзішчы, што на беразе возера Снуды стаяў замак. Жыла ў ім прыгожая і багатая князёўна. Была вельмі добрай і ўсе навокал яе слухалася, нават возера Снуды. У размешчанай непадалёку вёсцы Луні жылі тры вядзьмаркі, якія не любілі князёўну. Калі хто хацеў сватацца да прыгажуні, то вядзьмаркі ператваралі яго ў ваўка. Аднаго разу сёстры пасварыліся і разышліся. Пры раздзеле адной дасталася рыдлёўка для палётаў, другой – хата, а трэцяй – ляска і тры камяні з возера Снуды. Адна вядзьмарка засталася ў Лунях, другая на рыдлёўцы паляцела на гару, дзе цяпер Перавалока. Вядзьмарка з ляскай накіравалася на Гарадзішча. Яна выкрала ключы ад замка, потым замкнула князёўну ў адным пакоі і стала рабаваць багацці. Перавалоцкая вядзьмарка папрасіла ў сястры пазычыць ключы на час. Кінула сястра ключы, але трапілі яны ў ваду. Сталі вядзьмаркі загаворваць дно возера, каб вярнула яно ключы. Выгнулася дно возера і ўтварыўся купалападобны востраў (Турмас). Ускочыла вядзьмарка на рыдлёўку і паляцела на востраў – шукаць ключы, аднак не знайшла.

Далёка ад Гарадзішча жыў прыгожы князь. Славіўся багаццем, меў замак і шмат рыцараў. Даведаўся пра прыгожую князёўну і вырашыў ажаніцца з ёй. Напачатку выправіў у Гарадзішча пасла, а калі той не вярнуўся, рушыў у дарогу сам. Калі даехаў да Лунёў, то на дарогу выбег воўк і кажа: "Не едзь далей, бо злая вядзьмарка зробіць з цябе ваўка, як гэта зрабіла са мной". Пазнаў князь голас свайго пасла, паверыў яму і вярнуўся ў замак. Там адразу паклікаў чарнакніжніка і загадаў яму ехаць да Гарадзішча і зрабіць шлях да князёўны бяспечным. Абяцаў за паслугу шчодра аддзячыць. Прыехаў чарадзей на кані да берага Снудаў, ператварыўся ў рыбу і стаў чакаць. Акурат у гэты час у ваду ўпалі ключы. Падхапіў ключы чарадзей, стаў чайкай і паляцеў да князя. Зноў сабраўся князь у дарогу, узяў з сабой чарнакніжніка, яшчэ сто збройных рыцараў. У Лунях вядзьмарка паспрабавала зачараваць усіх у ваўкоў, але чарнакніжнік апярэдзіў яе – у вядзьмаркі, якая высунулася з акна, раптам выраслі вялізныя рогі. Рогі не дазволілі ёй ні вярнуцца ў пакой, ні выйсці з дому.

Прыбыў князь са світай да замка. Князь кажы чарнакніжніку: "Табе даю ў падарунак вядзьмарку". Пайшоў чараўнік праз возера, дзе ішоў, слаўся пясок (цяпер там можна ўбачыць мелі". Захапіў ён вядзьмарку, прыцягнуў да замка, падняў угару ды моцна стукнуў аб зямлю. Толькі валасы засталіся ад вядзьмаркі на паверхні. Тыя валасы чараўнік падпаліў, гараць яны па сённяшні дзень. Толькі ўдзень полымя не відаць, адно - уначы. Ёсць, аднак,



**На гэтым фотаздымку выразна відаць перавалоцкія пагоркі. На заднім плане - урочышча Гарадзішча. Здымак з альбома З.Пазьняка «Браслаўшчына» (1970 г.)**

небяспека. Чараўнік пільнуе каля полымя былыя вядзьмарскія, а цяпер – ягоныя, скарбы і можа любога ператварыць у камень.

Тым часам князь вызваліў князёўну, стаў гаспадаром замка. На жалезных варотах загадаў выкаваць рыбу – свой герб. Злая вядзьмарка з Гарадзішча не змірылася з паражэннем, яна здолела ператварыць замак у высокі пагорак, а ўсіх людзей усыпіла. Знікла ўсё, створанае рукой чалавека, паўстаў краявід, што захаваўся да гэтай пары.

З урочышчам Гарадзішча звязана яшчэ адна легенда. Ад часу гібелі замка мінула шмат часу, наступіў прыгон. У Падвышанках (1 км ад Гарадзішча) жыў багаты пан, які меў вялікі статак свіней. Пастухом статка быў 20-гадовы хлопец. Звярнуў ён увагу, што адна свіння на нейкі час знікае. Расказаў хлопец пра гэта пану. Той даў пастуху памочніка, каб больш пільна прыглядаць за жывёлай. Справа адразу падалася таямнічай, бо свіння нідзе шкоды не рабіла і ў хлеў вярталася сытая.

На наступны дзень, як толькі свіння адышла ад статка, пастух пайшоў за ёй. Ля гары Гарадзішча свіння раптам знікла. Хлопец абшукаў наваколле і натрапіў на нейкую нару, такую вялікую, што ён змог уціснуцца ў яе. Неўзабаве лаз скончыўся падземнай залай. Сцены былі ўпрыгожаны зброяй, па кутах спалі рыцары, побач – паненка ў белай сукенцы. Яшчэ ў зале стаялі коні, якія елі авёс. Частка корму сыпалася на зямлю і яго з'ядала свіння. Пастух з усёй моцы стрэльнуў пугай. Свіння скочыла да лазу, а за ёй пастух. Услед уцекачу гучаў вокліч абуджаных рыцараў: "А што, ужо пачалося паўстанне?"

Калі на наступны дзень пастух прыйшоў з панам, то яны не здолелі адшукаць той нары: усюды расла трава.

*Паводле публікацыі Юзафа Караля у квартальніку "Хадзем наперад!". Скарочаны варыянт.*

---

## Хрыстос гаспадарскі

Добрый вечар хазяін,
Ці спіш, ляжыш, адпачываіш,
Ці ж жаною маладою,
Ці з дзеткамі маленькімі.
Када ты спіш – Бог з табой,
Када ня спіш – устань з ложка,
Устань з ложка, ідзі к аконцу,
Пасматры што ў тваім дварцу дзеіцса-лялеіцса:
На прыстоле сам Бог сядзіць,
Каля няго усе празьнічкі
Шахуюцса-рахуюцса,
Катораму ўпярод ступіць.
Святы Ізбор – вада із гор,
А рыбачка з нор.
Святая Благававешчына
Санікі кідаіць
У чысты чваргэк заворываіць
Вараным канём, запяткай сахой і правай рукой.
А у суботу яйкі красяць
А у нядзелю гандлююць і Бога хвалюць
Ад праводняй праваждаюць.
А Святый Юры Божый ключнік
Вазьмі ключы ў абе ручы,
Ідзі у поля, у чыстая,
Адамкні зямлю, пусці расу,
Пусьці расу на усю вясну
І цёплую, і мокрую.
Святой Мікола па межам ходзіць
І жыта раўняіць.
Зраўнуй Божэ усюды роуна
Як і долы, так і горы.
Святая Дзесятка у жыцю пятка,
Святое Пятро у жыцю ядро,
Святая Ільля старая змія,
Што раз махнят, то сноп кладзят.
Ад Прачыстай да Прачыстай жыта сеюць
Святой Пакроу саусім дамоу.
Добрый вечар хазяін
Спевайце братцы, спевайце –
Мы госцічкі небывалые
Спевайце братцы, спевайце –
Не часта ходзім
Спевайце братцы, спевайце –
Не многа просім
Спевайце братцы, спевайце –
Пачынальніку капу яец
Спевайце братцы, спевайце –
Маім братцам па дзесятак
Спевайце братцы, спевайце.

— 37 —

**Christos haspadarski.**

Dobryj wieczer chazlain,
ci špisz, łažysz, ci adpaczywaisz,
ci z žanoju maładoju,
ci z dzietkami malenkimi.
Kada ty špisz—Boh z taboj,
kada nie špisz—ustań z łóžka,
ustań z łóžka, idzi k akoncu,
pasmatri szto u twaim dwarcu dziejcsa—laleicsa:
Na pristole sam Boh siedzić,
kala nieho usie prażniczki,
szachujucsa—rachujucsa,
katoramu upierod stupić.
Swiaty Izbor—wada iz hor,
a rybaczka z nor.
Swiataja Błahawawieszczyna
saniki kidaić,
u czysty czwartek zawaryważ
waranym kaniom, załatoj sachoj i prawaj rukuj.
A u subotu jajki krasiać,
a u niedzielu handlujuć i Boha chwaluć,
ad prawodniej prawaždajuć,
A światyj Jury Božyj klucznik
woźmi kluczy u eble ruczy,
idzi u pola, u czystaja,
adamkni ziamlu, pusci rasu,
puści rasu na usiu wiasnu,
i ciopłuju, i mokruju.
Świetoj Mikola pa mieżam chodzić

### Хрыстос для гаспадыні

Добрый вечар паненачка
Спевайце братцы, спевайце –
Ці спіш, ляжыш ці адпачываеш і г.д.
Када спіш – Бог з табой
Када ня спіш ляніва кошка,
Устань з ложка, абуй ножку,
Панчошкі бялёные,
Чаравічкі казловые,
Падвязачкі шаўковые.
Умыся-прыбярыся
Ідзі жа ты ў агродачак,
У агродачак у агродачак,
Ружу белую палоць.
Ружу белую палола,
Сабе руку закалола.
Пайду ж я узмор'я,
Руку белую умыці.
Белу руку я мыла,
Злоты сыгнет ураніла,
Ураніла, утапіла.
Вот недоля, вот нешчасце.
Пайду ж я каля мора,
Каля мора ручай ламя.
Напаткала трох рыбалоўцаў.
"Ах вот хлопцы рыбалоўцы,
Вы закінце шаўковы невад".
Закінулі і ўлавілі.
Вот і доля, вот і шчасце.
"Аднаму буду я землячкай,
А другому суседачкай,
А трэцяму сама малада,
Сама малада, як ягада.
Добры вечар паненка
Спевайце братцы, спевайце –
Мы госцішкі ...
Спевайце братцы, спевайце.

Друкуецца паводле квартальніка "Хадзем наперад!".
Пераклад з лацінкі на кірыліцу.

# ВАРТА ТОЛЬКІ ПРЫГЛЯДЗЕЦЦА...

*30 чэрвеня мінулага года каманда школьнікаў Канстацінскай і Опсаўскай школ нашага раёна былі запрошаны ў Мінск на заключную канферэнцыю па выніках IV этапа Рэспубліканскай краязнаўчай экспедыцыі "Наш край". Там яны прадстаўлялі праект "У пошуках слядоў сівой даўніны". Вывучэнне дагістарычнага мінулага ваколіц в.Пагошча Браслаўскага раёна". Прыводзім сціслы пераказ іх выступлення.*

Першыя храналагічныя згадкі аб нашай мясцовасці адносяцца да 1498 г. (в.Дамашы), 1529 г.(в.Пагошча) і больш позняга часу. Але знаходкі каменных сякер, рэштак старажытнай керамікі (па вызначэнню спецыялістаў-археолагаў) давалі нагоду да думкі, што чалавек жыў у нашай мясцовасці намнога раней, чым гэта было зафіксавана дакументамі. Надзеі для гэтага давала яшчэ і тое, што археолагі на нашай Браслаўшчыне ўжо знаходзілі стаянкі часоў неаліту, бронзавага і жалезнага веку. Няўжо старажытны чалавек мінуў нашу мясцовасць? "Быць таго не магло!" – вырашылі мы і разам са сваімі настаўнікамі пачалі шукаць. Мэтай нашых пошукаў сталі каменныя прылады працы, культавыя валуны, таксама – кераміка, як індыкатар старажытных паселішчаў і старажытныя пахаванні. Перад вучнямі усіх класаў было пастаўлена задача - адшукаць сляды старажытнай гісторыі нашых мясцін і праца пайшла. Неўзабаве нашы надзеі спраўдзіліся. Уважліваму воку гэта не так ужо і цяжка – варта толькі прыглядзецца і старажытная гісторыя нашай старонкі пачала адкрываць свае таямніцы.

Першы накірунак нашых даследванняў – культавыя валуны ваколіц вёскі Пагошча. У вельмі цікавай кнізе "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны" Э.А.Ляўкова мы прачыталі аб валунах, пра якія захаваліся павер'і і легенды аб іх незвычайных уласцівасцях: скарбах, прывідах, лекавых магчымасцях і г. д. Аўтар адносіў такія камяні да ахвярнікаў яшчэ язычніцкіх часоў. Збіраючы фальклор, мы знайшлі такія і ў нашых ваколіцах. Усяго набралася 6 аб'ектаў, 3 з якіх на жаль ужо страчаны ў выніку меліяратыўных работ. А зараз крыху падрабязней пра некаторыя з іх.

«Пузавіцкі Вялікі камень» размешчаны ля в.Пузавічы. Мясцовыя жыхары. распавядаюць, што вадой з унутраннага паніжэння ў камені рэкамендавалі зводзіць барадаўкі. Камень з усіх бакоў падкапаны. Сляды даволі свежыя. Жыхары в. Пузавічы сцвярджаюць, што гэта зрабілі каровы, якія наогул каля валуна пачынаюць шалець. І яшчэ існуе павер'е, што пад валуном схаваны скарб. Дарэчы, у 2000 г. „Пузавіцкі Вялікі камень" абвешчаны помнікам прыроды і культуры рэспубліканскага значэння.

«Пятушкаў камень» ляжыць ля в.Новая. Жыхар гэтай вёскі паведаміў аб камні : "Раней у гадавыя святы бацькі забараняді малым гуляць побач, пужалі: "Нячысцік задусіць", а старыя прысказвалі, што там на гадавыя святы здань скокае. Часта бывала, пасе хто-небудзь побач кароў, а каля камня быта боруцца, скакаюць, падыдзеш бліжэй – вжык і прапала". З літаратуры і кансультацый з спецыялістамі мы даведаліся, што такія павер'і – тыповая прыкмета таго, што гэтыя валуны з'яўляліся язычніцкімі ахвярнікамі. У далейшым гэтыя пошукі ў час паходаў мы працягнулі на тэрыторыі амаль усяго раёна.

На жаль, меліярацыя знішчыла ля в.Дамашы яшчэ адзін вельмі цікавы валун са следам падковы. З ім звязана цікавае паданне. " У французскую вайну спыніліся на прывал ля гэтага балота французскае войска. А было ў гэтым балоце дужа многа змей. Адна з іх укусіла любімага каня аднаго француза , і жывёла здохла. А той салдат умеў чараваць, разззлаваўся і загаварыў балота, каб змей не было. І сапраўды, хоць басаnож зараз хадзі па балоту – ні адной змяі няма. А яшчэ на памяць выбіў на камні падкову" Спецыялісты падобныя аб'екты называюць зааморфнымі следавікамі. У

Беларусі іх вялома каля дзесяці. Ю.Латушкова, супрацоўніца Нацыянальнага музея гісторыі і культуры, адзначае, што конь з'яўляецца істотай, блізкай да нячыстай сілы, жыллём якой часта з'яўляюцца балоты. Вучоныя мяркуюць, што камень меў культавае значэнне, з'яўляўся старажытным абярэгам ад змеяў з бліжэйшага балота.

Паралельна рабілася другая праца - пошукі слядоў старажытных паселішчаў. І тут нам спадарожнічала фартуна. Юныя археолагі з Кансталіны ўжо не першы раз на раскопках. За іх плячыма - праца на гарадзішчы жалезнага веку "Рацюнкі" і таму, валодаючы некаторымі ведамі па археалогіі, яны знайшлі ў ваколіцах Пагошчы кавалкі старажытнай керамікі і рэшткі выплаўкі бронзы і жалеза. Знойдзены два такія паселішчы: першае - паселішча жалезнага веку (прыблізна пач. нашай эры) каля в.Кансталіна, на рэшткі якога звярнуў увагу вучань 9 класа Руслан Януль, і другое - паселішча ранняга сярэдневечча (IX - XIII стст.) каля в.Варнелі. На яго месцы знойдзена кераміка вучнем 9 класа Уладзімірам Адамчыкам. Слядамі паселішча жалезнага веку зацікавіўся археолаг А.Егарэйчанка з Беларускага дзяржуніверсітэта.

Трэцім накірункам нашага даследчага праекта сталі раскопкі курганнага могільніка "Пагошча". У 1996 г. краязнаўцам школы пашанцавала знайсці на беразе воз.Бяржонка, што ў ваколіцах в. Пагошча, групу насыпаў, якія былі вельмі падобныя на курганныя могільнікі. У 2001 г. запрошаныя спецыялісты пацвердзілі правільнасць нашай здагадкі. Неўзабаве да нас наведаўся Мікалай Плавінскі, старэйшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнга музея гісторыі і культуры Беларусі, які зацікавіўся нашай знаходкай і прапанаваў Кансталінскай і Опсаўскай школам супрацоўніцтва ў раскопках курганоў. Было вырашана здзейсніць гэты праект як школьную археалагічную экспедыцыю.

Раскопкі праводзіліся ў II этапы. На першым этапе даследванне вялося сіламі мясцовых школьнікаў. Усяго працавала 57 чалавек. Былі раскапаны адзін поўнасцю і асноўная частка другога насыпу. Вынікі I этапа былі абнадзейваючымі і кіраўнік раскопак вырашыў іх працягнуць. На II этапе раскопкі адбываліся ў рамках праграмы валанцёрскага летніка, удзельнікамі якога былі 18 дабраахвотнікаў з 8





краін: Беларусі, Германіі, Ірландыі, Італіі, Францыі, Шатландыі, Швейцарыі і Швецыі ва ўзросце 19-42 год. Прыехалі яны сюды папрацаваць, пазнаёміцца з новымі людзьмі, адкрыць для сябе Беларусь. Пастаянную дапамогу ў раскопках аказвалі 9 мясцовых школьнікаў-энтузіястаў. Іншаземцы аказаліся неблагімі працаўнікамі, мужна пераносілі цяжкасці палявога жыцця і капрызы надвор'я.

Першы курган - верагодна мужчынскае пахаванне дружынніка. Побач з целам былі пакладзены кап'ё нож, гаршок, бронзавыя фібула і гузікі. Пасля заканчэння летніка раскапаныя курганы былі адноўлены, так што наша мясцовасць не страціла свайго экскурсійнага аб'екта.

У 2006 г. раскопкі былі працягнуты, раскапаны яшчэ 3 курганы як з мужчынскімі, так і жаночымі пахаваннямі. Заўважана, што апошнія звычайна больш сціплыя. Як паведаміў кіраўнік работ М.Плавінскі, усё больш выразна бачна, што нашы курганы - пахаванне жыхароў памежжа Полацкага княства перыяду ад 3-й чвэрці I тыс. н.э. да XIII ст.

Паспяховай аказалася праца па вывучэнню калекцыі каменных сякер, што была сабраная ў нашай мясцовасці на працягу апошніх гадоў. Гэтыя артэфакты вельмі цікавыя і важныя для вывучэння старажытнага этапу мінулага краю. З курса школьнай гісторыі мы ведалі прыблізны час, калі імі карысталіся людзі, але хацелася даведацца аб гэтых прадметах больш. Вывучалі нашы школьнікі іх самастойна, а потым параіліся са спецыялістамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Збор гэтых прадметаў ужо налічвае 6 асобнікаў, ёсць звесткі яшчэ аб 4, якія былі вывезены з нашых мясцін. Гэта ў асноўным клінападобныя і адна свідраваная працоўныя сякеры канца бронзавага веку (2-е тысячагоддзе да н.э.- 5 ст. да н.э.). Знаходкі лакалізуюцца ў 4 мясцінах: ўсходняй і паўночнай ускраін в.Пагошча, бераг воз.Бяржонка, в.Дукелі і в.Дамашы. Верагодна, такая гушчыня месц знаходак сведчыць, што ў нашай мясцовасці існавала 3 месцы пражывання старажытных людзей і таму трэба распачаць іх мэтанакіраваныя пошукі. Таксама мяркуем, што розныя тыпы і падтыпы сякер сведчаць альбо аб працяглалсці жыцця старажытных людзей альбо прысутнасцю розных культур.





Зыходзячы з усяго вышэйзгаданага лічым, што людзі ў нашай мясцовасці жылі намнога раней XV ст. Такім чынам мэта нашага краязнаўчага праекта дасягнута. Далейшую працу мы прадставілі прафесійнаму археолагу М.Плавінскаму, якому мы па меры магчымасцей будзем дапамагаць. Вельмі важна, што вучні школ набылі пэўны вопыт працы на археалагічных раскопках, змаглі "дакрануцца" да гісторыі свайго краю, прынялі ўдзел у яе адкрыцці і ўзбагачэнні.

Іван Раманоўскі, вучань Канстлінскай БШ

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)